*Гарантыі Кебіча былі ліпавыя (стар.4)*
*Сьпіс тэлефонаў адміністрацыі прэзідэнта (стар.6)*



# СВАБОДА

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

24 лістапада 1995 г. №53 Кошт свабодны

## Ці дадуць эфір партыям?

**Кіраўнікі сямі палітычных партыяў Беларусі зьвярнуліся да прэзідэнта Лукашэнкі і кіраўніцтва нацыянальнай Тэлерадыёкампаніі з просьбай прадаставіць у бліжэйшыя дні перад першым і другім турамі галасаваньня эфірны час прадстаўнікам партыяў для абнародаваньня перадвыбарчых платформаў.**

Ад Беларускага народнага Фронту эфір возьме Сяргей Навумчык, ад Партыі камуністаў Беларусі – Анатоль Лашкевіч, ад партыі "Надзея" – Рэгіна Давідовіч, ад Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды – Дзьмітрый Булахаў, ад Грамадзянскай партыі – Барыс Луцэнка, ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі – Міхась Пліска і ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады – Міхась Чарняўскі.

Прыкметна, што ўсе названыя асобы не зьяўляюцца кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савету, а значыць на іх не распаўсюджваецца ўказ прэзідэнта пра так званыя роўныя магчымасьці.

**Павет**

## Лукашэнка выклаў 5 тысяч даляраў за выратаваньне камуніста

**"Я ні ў чым ня каюся і выказваю падзяку прэзідэнту Беларусі і беларускім уладам за сваё вызваленьне", – заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ беларускі грамадзянін Іван Кучараў, які 20 лістапада быў вызвалены з літоўскай турмы, дзе яго ўтрымлівалі пад следзтвам за ўдзел у падаўленьні літоўскіх дэманстрацыяў у 1991 годзе.**

Як стала вядома СВАБОДЗЕ, вызваленьне камуніста Кучарава адбылося па прамым хадайніцтве беларускага прэзідэнта. Прыкладна месяц таму Аляксандар Лукашэнка накіраваў скандальнавядомы ліст на імя літоўскага прэзідэнта А.Бразаўскаса, у якім пагражаў Літве пагаршэньнем беларуска-літоўскіх дачыненьняў у выпадку, калі Вільня ня вызваліць Івана Кучарава. Цяпер жа беларускі прэзідэнт выразшыў напросту выкупіць беларускага камуніста. Амбасадар Беларусі ў Вільні Яўген Вайтовіч адмовіўся назваць канкрэтную суму, за якую выкупілі Кучарава. Але, як паведаміла СВАБОДЗЕ крыніца з беларускага Міністэрства замежных справаў, Кучарава вызвалілі пад заклад у 5 тыс. даляраў і распіску, дзе ён гарантуе зьяўленьне на судовы працэс па першым запатрабаваньні літоўскай пракуратуры. Раней літоўскі бок патрабаваў за вызваленьне Кучарава 50 тыс. даляраў.

Па словах Яўгена Вайтовіча, вызваленьне Кучарава адбылося яшчэ і з прычыны таго, што ён хворы на рак. Зараз Кучараў знаходзіцца на кватэры сына ў Менску.

**Я.П.**

## Толькі Беларусь ня выканала Дамову

**Згодна з Дамовай аб звычайных узброеных сілах у Эўропе, 17 лістапада пачаўся 120-дзённы пэрыяд пацьверджаньня канчатковых узроўняў баявой тэхнікі. З гэтай нагоды ў Беларусі знаходзяцца дзьве інспэкцыйныя групы з Вялікабрытаніі і Францыі.**

Як паведамілі ў Нацыянальным агенцтве па кантролі і інспэкцыях, Беларусь ня выканала ўзятыя на сябе абавязацельствы. На трэцім этапе (дадзеныя на 22 лістапада) парэзана толькі 93 танкі (замест 570), 136 баявых браніраваных машынаў (замест 440) і ніводнага з 46-ці самалётаў. Краіны-удзельніцы гэтай Дамовы згадзіліся працягнуць для Беларусі тэрміны скарачэньня зброі да 26 красавіка 1996 года. Так паведаміў намесьнік міністра замежных справаў Андрэй Саньнікаў, які нядаўна па гэтай праблеме знаходзіўся ў Вене. Ён сказаў таксама, што "Беларусь не фігуруе як парушальніца Дамовы, хаця такое магло здарыцца". Андрэй Саньнікаў запэўніў, што "цяпер нашыя адносіны да Дамовы будуць больш сур'ёзнымі".

Тым часам у рэдакцыю СВАБОДЫ паступаюць прэс-рэлізы замежных пасольстваў, якія паведамляюць пра канчатковае выкананьне Дамовы іхнімі краінамі. Напрыклад, амбасада Чэхіі інфармуе, што "6 лістапада ліквідаваны апошні "наднарматыўны" танк. На працягу апошніх 4 гадоў Чэская Рэспубліка зьнішчыла 1178 баявых танкаў, 1495 артылерыйскіх сістэмаў, 1622 баявыя бронемашыны пяхоты і 64 баявыя самалёты. Колькасны склад войска Чэхіі скарацiўся ад 106 тыс. чалавек да 65 тыс."

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Гасіць агонь зьехаліся пажарныя з трох абласьцей

**У Карэлічах на ільнозаводзе здарыўся пажар. Утаймаваць агонь зьбольшага ўдалося толькі праз 13 гадзінаў, а ліквідоўваць наступствы пажару давялося яшчэ трое сутак.**

З гэтай мэтаю зьехаліся пажарнікі з Карэлічаў і раёну, прыбылі 4 машыны з Ліды, а таксама спэцтэхніка з Навагрудку, Гарадзеі, Стоўбцаў і нават з Баранавічаў і Нясьвіжу. Паводле папярэдніх падлікаў, у сховішчы з 670 тонаў ільняной сыравіны згарэла 500. Лён гарыць амаль як порах, і яго практычна немагчыма пагасіць. Па афіцыйных зьвестках, страты склалі 250 млн. рублёў. Неафіцыйна называецца лічба ў 3-4 разы большая. Дзякаваць Богу, не дапусьцілі, каб агонь перакінуўся на суседнія сховішча з дзьвюма тысячамі тонаў лёну. Адна з вэрсіяў сьледзтва – падпал быў учынены наўмысна.

**Антон БАЗЫЛЕВІЧ**

# Кожны агітуе на свой капыл

**Цяперашніх кандыдатаў па-ранейшаму можна падзяліць на некалькі вялікіх групаў: камуністы, БНФ, дэмакраты-цэнтрысты і незалежныя.**

Аграрыі, нягледзячы на ўсе іхныя заявы, ужо ў траўні фактычна вычарпалі патэнцыял павялічэньня колькасьці сваёй фракцыі. Прэзідэнцкім "вертыкальшчыкам" у сталіцы і буйных гарадах таксама амаль нічога ня сьвеціць.

Самай масавай, але аднačасова і самай рознакаляровай і малапрадказальнай часткай прэтэндэнтаў у Вярхоўны Савет зьяўляюцца незалежныя кандыдаты. Для палітычнага аналізу беспартыйныя ўяўляюць найбольшую складанасьць – у іхных улётках цяжка знайсьці палітычную пазіцыю магчымага дэпутата. Лозунгі пераважнай большасьці незалежных кандыдатаў не даюць магчымасьці распачаць якую-небудзь дыскусію. "Я за барацьбу са злачыннасьцю і карупцыяй, за надзейную сістэму сацыяльнай абароны, за дастойную пэнсію, за магчымасьць працаваць і зарабляць". А хто ж супраць? З гэтага пераліку штампаў застаецца загадкай, якім спосабам дэпутат стане забясьпечваць сваім выбаршчыкам "дастойнае жыцьцё".

Затое амаль усе незалежныя кандыдаты (асабліва бізнэсмэны) распаваядаюць найперш не пра сваю праграму, а пра сябе самога. Гэты агітацыйны ход мае вельмі слушны псіхалагічны разьлік – людзі любяць пераможцаў, тых, хто дасягнуў чаго-небудзь у сваёй галіне. Таму беспартыйныя прадпрымальнікі, лекары, настаўнікі, дырэктары большую частку сваіх агітацыйных улётак запаўняюць яркім апісаньнем уласнай біяграфіі ды творчых і працоўных посьпехаў. Некаторыя ж самыя заможныя бізнэсмэны раптоўна дэманструюць непараўнальную "сьціпласьць" і даюць выказацца пра сябе іншым асобам. За аднаго з прадпрымальнікаў ва ўлётцы агітавалі слесар-электрык, дырэктар сярэдняй школы, пэнсіянэр, старшыня калгасу ("Шкада, што мы ня можам удзельнічаць у выбарах па вашай гарадзкой акрузе. Абавязкова аддалі б свае галасы за...") і першы намесьнік мясцовага райвыканкаму, дзе кандыдат падараваў райсабесу два сучасных кампутары.

Нават камуністы ў сваёй перадвыбарчай агітацыі не кіруюцца якой-небудзь абавязковай прапагандысцкай схемай – кожны агітуе на свой капыл. У адных палітычная праграма не нясе фактычна ніякай ідэалагічнай нагрузкі –"простая і даступная", як ва ўсіх. Некаторыя з прадстаўнікоў ПКБ у сваіх улётках і зваротах да выбаршчыкаў нават аніводнага разу не ўжываюць слова "камуніст" ці "камуністычны". Іншыя ж, асабліва з пралетарыяту, проста захопленыя духам ідэйнасьці і партыйнасьці: "Толькі камуністычная партыя – адзіная надзея ў барацьбе супраць набліжэньня панаваньня капіталізму, прадажнасьці, бясправя працоўных, уседазволенасьці тых, хто трымае ўладу". Такіх камуністаў не было нават у КПСС. Відавочна, што зараз ПКБ не зьяўляецца ідэйным маналітам, аб'ядноўваючы як зацятых бальшавікоў, так і людзей, якія выкарыстоўваюць партыю ў якасьці трампліну ў парламант.

Апошняя значная навіна з лагеру БНФ: у Смаргонскай акрузе, дзе балатуецца Зянон Пазьняк, даволі нечакана зьняў сваю кандыдатуру кандыдат ад камуністаў сп.Батурын. Такім чынам, у лідэра Фронту зараз застаўся ўсяго адзін супернік. Баюся памыліцца, але здаецца, што прадстаўнікі БНФ пакуль не выяўляюць шырокай перадвыбарчай актыўнасьці – можа, спадзяюцца на другі тур?

Іншая справа – сацыял-дэмакраты. Іхны плакат – "дзяржаве – парадак, людзям – справядлівасьць" сустракаецца ў горадзе часцей за любую іншую палітычную рэкламу, а кароткая ўлётка СДС ужо сапраўды ўвайшла ў кожны дом. "Обуздать капитализм и очеловечить социализм" – гэтыя пранікнёныя, але загадкавыя словы льюцца ў сэрцы нашых выбаршчыкаў.

Дарэчы, беларуская мова ў перадвыбарчай барацьбе аказалася мовай "нон-грата" (непажаданай). Напрыклад, змагары супраць "шокавай тэрапіі" і "скоропалительной" прыватызацыі (маю на ўвазе сацыял-дэмакратаў) у сваіх агітацыйных матэр'ялах карыстаюцца выключна расейскай мовай. Эх, Грамада!.. Нават некаторыя кандыдаты ад Фронту дэманструюць своеасаблівы моўны плюралізм: на іхных улётках з розных бакоў сустракаецца аднолькавы тэкст на дзьвюх мовах.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

ПАДРАБЯЗНАСЬЦІ

## Стрэлы ў «Опелі»

**Былы ўпаўнаважаны КДБ па Гомельскай вобласьці Сяргей Музычкін прызнаў сябе вінаватым у забойстве бізнэсмэна Верашчагіна.**

СВАБОДА пісала пра гэта 4 лістапада. Цяпер нам сталі вядомыя падрабязнасьці.

37-гадовы гэбіст расправіўся са сваім крэдытарам, якому быў вінаваты 20 тыс. даляраў, у джэймсбондаўскай манэры: не выходзячы са свайго Опеля з нумарамі 0099 ЕА. Адна куля прашыла Верашчагіна навылёт, другая засталася ў целе ахвяры. Пазьней гэтая куля стала доказам таго, што стралялі ў намесьніка дырэктара МП "Беларусь" менавіта з табельнага "Макарава", які належаў маёру Музычкіну.

Забойства было ўчынена 8 ліпеня на шашы Гомель-Жлобін каля мястэчка Хальч (за 15 км да Жлобіну). Тут у лесе ўпаўнаважаны і пакінуў цела забітага, закідаўшы яго галінамі ды зямлёю. Ён планаваў пры зручным выпадку вярнуцца і схаваць труп больш надзейна. Але 11 верасьня цела Верашчагіна знайшоў мясцовы жыхар, які зьбіраў у лесе грыбы.

Якой жа была прычына забойства? На гэтае пытаньне С.Музычкін цяпер адказвае проста: пазычыў 20 тыс. даляраў на будаўніцтва катэджу, а разьлічвацца не было чым, вось і давялося вяртаць крэдыт сьвінцом. Але ці ўсё так проста ў гэтай справе, як хоча выставіць забойца? Калі б ён адразу планаваў забойства, то не траціў бы грошы на будоўлю. Атрымліваецца, што беручы крэдыт, упаўнаважаны КДБ разьлічваў на нейкі вялізны прыбытак. На які? Няўжо на легальны заробак? Наўрад ці, бо ягонай зарплаты ў два мільёны магло хапіць толькі на тое, каб сям'я ня пухла з голаду. Спадчыны ён таксама не чакаў. Застаецца толькі вэрсія нейкіх левых "ганарараў". А за што можа ўпаўнаважаны КДБ атрымаць "ганарар"? Напрыклад, шмат людзей бізнэсу зацікаўленыя ў канфідэнцыйнай інфармацыі, у "даху", які пры жаданьні можа гарантаваць прадстаўнік сілавога ведамства.

Музычкін зараз "косіць" пад дауўжніка, якому нічога не заставалася, як разьлічыцца з дапамогай зброі. Яму нават вельмі патрэбны гэты 101-ы артыкул КК РБ – звычайнае наўмыснае забойства.

Толькі, ці звычайнае?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



**НА ЗДЫМКУ:** *Салігорск. Падпісчык газэты "Народная воля" спрабуе дамагчыся ад уладаў, каб яму дастаўлялі любімую газэту.*

**▪Падпісчыкі СВАБОДЫ рэгулярна атрымліваюць газэту па аўторках і пятніцах**
**▪Аўторкавы нумар СВАБОДЫ ў кіёсках не шукайце – "Саюздрук" адмаўляецца браць яго ў продаж**
**▪Раім тэрмінова аформіць падпіску**
**▪Падпіска на СВАБОДУ прымаецца ва ўсіх паштовых аддзяленьнях да 30 лістапада**

ЭКАЛОГІЯ

# Масква адмаўляецца вычысьціць тэрыторыю былых ракетных базаў

*Рэкультывацыя адной базы каштуе каля 10-ці мільёнаў даляраў*

**Амэрыканскія спэцыялісты атрымалі першыя вынікі экалагічных дасьледаваньняў на былой расейскай ракетнай базе ў Паставах.**

Дырэктар рэспубліканскага навукова-тэхнічнага цэнтру "Экамір" Аляксандар Кавалёў, які працаваў разам з амэрыканцамі, паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што на тэрыторыі базы выяўлена 29 моцна забруджаных участкаў. Апроч нафтапрадуктаў, зафіксавана каля 15 відаў цяжкіх мэталаў, сярод якіх сьвінец, цынк, алюміній. Забруджаная ня толькі глеба, але і грунтовыя воды. Зрэшты, нічога дзіўнага ў гэтым няма – тое ж самае расейскія войскі пакінулі ў Нямеччыне і краінах Балтыі. Але, з улікам асаблівых пачуцьцяў старэйшага брата да малодшага, расейскія вайскоўцы прысыпалі зямлёй нафтавыя плямы. Толькі з дапамогай амэрыканскіх эксьпэртаў плямы ўдалося выявіць.

У рамках супрацоўніцтва ЗША і Беларусі па зьмяншэньні ядзернай пагрозы распрацаваны праект экалагічных аднаўленчых мераў на былой расейскай базе ў Паставах. Увесну, пасьля пастаўкі неабходнага абсталяваньня, амэрыканцы прадэманструюць тут тэхналогію ачысткі тэрыторыі. Пастаўскі вопыт будзе выкарыстоўвацца і на іншых ракетных базах. У хуткім часе спэцыялісты з ЗША пачнуць абсьледаваньне такога ж аб'екту ў Ружанах. Амэрыканскі бок выдзяліў 25 мільёнаў даляраў на экалагічныя абнаўленчыя мерапрыемствы. Гэтыя асігнаваньні выкарыстоўваюцца на набыцьцё сучасных тэхналогій, на дасьледаваньні і абучэньне нашых спэцыялістаў. Пасьля гэтага спатрэбіцца мільёны даляраў, каб ачысьціць былыя расейскія ракетныя базы. Ёсьць небясьпека, што закупленае абсталяваньне папросту паржавее. Чаму? Таму што Расея пакуль што не згаджаецца выдзяліць неабходныя сродкі на рэкультывацыю сваіх ракетных базаў у Беларусі. Адпаведныя дакументы адпраўленыя на ўзгадненьне ў Маскву яшчэ ў сакавіку гэтага году. Адказу ніякага. Рэч у тым, што нашыя ўлады фактычна "разьвязалі рукі" Маскве, калі падпісалі ў 1993 годзе пагадненьне аб парадку вываду расейскіх войскаў. У гэтым пагадненьні канкрэтна ня ўказана, што расейскі бок павінен трансфармаваць базы для цывільнага выкарыстаньня. Словам, Расея чытае пагадненьне па-свойму і не рэагуе на нясьмелыя захады з Менску. Наадварот, расейскія вайскоўцы цяпер выйгралі больш. Калі раней яны мелі права вывесьці сваю тэхніку дахаты толькі пасьля спэцыяльнага дазволу беларускіх экалагічных службаў, то зараз нават гэтая нязначная мера кантролю зьліквідаваная. Мытны саюз дазволіў расейскім войскам стратэгічнага прызначэньня свабодна перасякаць дзяржаўную мяжу ў любы час. Расейцы сыходзяць на свае новыя кватэры, пакідаючы нам брудныя тэрыторыі ракетных базаў ды авіяпалігоны, нашпігаваныя вучэбнымі авіябомбамі (напрыклад, каля в.Дрэтунь Віцебскай вобласьці).

Амэрыканскіх спэцыялістаў вельмі зьдзівіла, што тэрыторыю былой ракетнай базы ў Паставах ужо паспелa прыняць Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пад будаўніцтва тут пансіянату для дзяцей. Амэрыканцы лічаць, што базу спачатку трэба было ачысьціць, а потым перадаваць нейкаму ведамству. Цяпер можа атрымацца, што чарнобыльскія грошы пойдуць на рэкультывацыю былой расейскай базы. Але акрамя грошай спатрэбіцца час. За тыдзень грунтовыя воды не аднавіць. Ачысьціць іх гэтак жа складана як і кроў.

## Што думаюць амэрыканскія экспэрты

***Джозэф Пецэвіч – адзін з 12-ці амэрыканскіх экспэртаў, які дасьледаваў экалагічны стан былой ракетнай базы ў Паставах. Сваімі ўражаньнямі ён падзяліўся з карэспандэнтам СВАБОДЫ.***

– Я ўжо каля дзесяці гадоў займаюся падобнымі дасьледаваньнямі, – кажа Джозэф. – Але мне рэдка даводзілася бачыць такую запушчаную тэрыторыю. У час забору адной пробы адбылося нават самаўзгараньне глебы – настолькі вялікая забруджанасьць. І трэба акрэсьліць: як далёка яна сягае, як шмат зямлі ахопліває. Мы таксама імкнемся вызначыць, якое гэта забруджаньне (тут шмат загадак). Акрамя таго, неабходна высьветліць: у якім накірунку рухаецца гэтая забруджанасьць, бо база знаходзіцца даволі блізка ад цывільнага насельніцтва. Мясцовыя жыхары зьбіраюць там нават грыбы.

*– Колькі можа каштаваць ачыстка былой ракетнай базы ў Паставах?*

– Пра кошт лягчэй будзе меркаваць пасьля лабараторных дасьледаваньняў, калі стане вядомы ўвесь спэктар хімікаліяў. Паводле папярэдніх ацэнак, толькі на ачыстку тэрыторыі ў Паставах спатрэбіцца каля 10-ці мільёнаў даляраў. Гэта ў параўнаньні з тымі падыходамі, якія ўжываюцца ў ЗША.

*– А як абыходзяцца амэрыканцы са сваімі ракетнымі базамі?*

– У ЗША ёсьць дзяржаўны грашовы фонд, які разьлічаньня на ўсе базы, на ўсе забруджаныя тэрыторыі, уключаючы нават участкі прыватных фірмаў. У параўнаньні з амэрыканскімі аб'ектамі, ракетная база ў Паставах запатрабавала б найбольшую суму грошай.

У штаце, дзе я жыву, ёсьць дзьве базы, экалогія якіх дакладна кантралюецца. Вельмі вялікі націск ад цывільных уладаў і насельніцтва. У перамовы ўключаюць прадстаўнікоў ад мясцовых жыхароў. Забруджаныя месцы ў ЗША абазначаюцца спэцыяльнымі шыльдамі. У вас жа ў Паставах, акрамя плакату з заклікам абараняць Айчыну, нічога не давялося бачыць.

*– Тое, што амэрыканцы апынуліся на былой расейскай ракетнай базе, добрая прыкмета часу. Як складаліся ўзаемадносіны паміж амэрыканскім і беларускім бокам?*

– Некаторыя непаразуменьні ўзьнікаюць. На жаль, яны ствараюць кепскі імідж і ўражаньне ў амэрыканцаў пра беларусаў. Амэрыканцы пытаюцца: чаго беларусы хочуць? Альбо толькі зарабіць, альбо яны зацікаўленыя, каб было чыстае навакольнае асяродзьдзе.

Мне здаецца, што амэрыканцы надта падатлівыя і імкнуцца дагадзіць хабарнікам. У мяне была сітуацыя: каб завяршыць хутчэй справу, намякнулі "падмазаць рэйкі". Відаць, усталявалася думка, што з амэрыканцаў можна выцiснуць грошы і ёсьць амэрыканцы, пераканаles, што падкінуўшы грошай усё будзе ў парадку. (Канечне, я ня маю на ўвазе беларускіх навукоўцаў.) Гэта толькі мае назіраньні. А што тады робіцца вышэй?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Вайскоўцаў у лес не пускаюць

**Асіповіцкі райсавет адмовіўся здаць у арэнду Беларускаму ваенна-паляўнічаму таварыству 5 500 га лесу.**

Таварыства планавала стварыць на гэтай тэрыторыі ваеннае лясьніцтва. Мясцовыя лесьнікі пераканалі дэпутатаў, што вайскоўцы могуць ператварыць лес у палігон. Былі прыведзеныя прыклады так званых паляваньняў, калі паляўнічыя ў пагонах на вайсковых машынах з аўтаматамі прачэсвалі лясныя прасторы. Лесьнікі таксама прыгадалі мінулае лета, калі агонь рушыў з Менскай вобласьці на асіповіцкія лясы, а вайскоўцы не паруплiся, каб ратаваць лес. Пажар гэты, між іншым, пачаўся ў Пухавіцкім раёне на тэрыторыі ваеннага лясьніцтва.

**В.АЛЯКСЕЕЎ**

## Новы гарнізон беспрацоўных

**У Быхаве чакаецца павелічэньне колькасьці беспрацоўных.**

У сьнежні будзе цалкам зьліквідаваны вайсковы гарнізон расейскай арміі. Зараз там працуе 200 вольнанаёмных.

## Слава абаронцам!

**Быхаўскі аддзел сацыяльнай абароны насельніцтва цалкам апраўдвае сваю назву.**

Сярэднямесячная зарплата супрацоўнікаў аддзелу пераваліла за мільён рублёў (дакладна: 1 млн. 14 тыс.). Цяпер "сацабаронцы" займаюць першы радок у раённым "рэйтынгу зарплатаў". Малайцы!

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Каб «бацьку» не растрэсла

**На чыгуначных пераездах пачалі класьці гумовыя "падушкі".**

Адзін такі пераезд абыходзіцца ў 8 тыс. дойчэмарак. Ужо абсталявана тры. Найперш гэта было зроблена на пераездзе Магілёў–Шклоў. Нямецкі гумовы пераезд адрозьніваецца ад нашага бэтоннага тым, што пасажыра ў машыне не трасе, аўтамабіль не псуецца ды і служыць такі пераезд даўжэй – больш за 5 гадоў.

**Іван ЗАСАДА**

## У Пінску зьявілася «Плошча»

**У Пінску зьявіўся першы нумар гарадзкой газэты "Плошча".**

Выдае яе аргкамітэт пінскай грамадзка-культурнай суполкі з такой жа назвай. Гэтая газэта – першая спроба стварыць у Пінску незалежнае выданьне, якое б праўдзіва і поўна адлюстроўвала грамадзкае жыцьцё горада. Наклад газэты – 500 асобнікаў. Першы нумар прысьвечаны пераважна выбарам.

## Выйшлі з «Парыскай камуны»

**Нядаўна ў Пружанскім раёне ўтварылася 4 фэрмэрскія гаспадаркі.**

Сярод новых фэрмэраў – намесьнік старшыні калгаса "Парыская камуна" і намесьнік галоўнага бухгалтара гэтай гаспадаркі, якія вырашылі разьвітацца з калгасам, каб працаваць самастойна. Цяпер у Пружанскім раёне 29 фэрмэраў.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Уся рэч у хіміі

*Новыя падрабязнасьці пра сустрэчу беларускага і літоўскага прэм'ераў*

**Пасьля нядаўняй сустрэчы ў Горадні А.Шляжавічуса і М.Чыгіра два прэм'еры наведалі Белавежскую пушчу, дзе палявалі на дзікоў.**

Цікава, што крыху раней у Літве пабываў польскі прэм'ер Ю.Алексы, якому для паляваньня ахвяравалі зубра. Мабыць, вынікі перамоваў адпаведна паўплывалі на памеры здабычы.

Як стала вядома, галоўнай мэтай А.Шляжавічуса, падчас візіту ў Горадню, было схіліць кіраўніцтва мясцовага аб'яднаньня "Азот", каб яно выдаткавала грошы на рэканструкцыю Клайпэдзкага порту, якім гэтае гарадзенскае прадпрыемства карыстаецца для экспарту сваёй прадукцыі. Аднак гэтага зрабіць па сутнасьці не ўдалося. Гарадзенцы ня вельмі хочуць траціць свае грошы, тым больш што ў іх ёсьць выбар паміж Клайпэдзкім і Гданьскім портамі. Прычым палякі інвэстыцыяў не патрабуюць.

Чаму ж у экспартаваньні на захад вадкіх угнаеньняў гарадзенскага "Азоту" гэтак зацікаўлены літоўскі бок? Па-першае, літоўцам, канечне, трэба загружаць свой порт. Але ёсьць яшчэ адна прычына. У горадзе Ёнава ёсьць свой "Азот", які, аднак, выпрацаваў свой рэсурс. Заходні рынак, як вядома, жорстка падзелены. У літоўцаў застаюцца квоты на экспарт хімічнай прадукцыі. Іх можна траціць пакуль будзе рэканструявацца Ёнаўскі камбінат. Выкарыстаньне Клайпэдзкага порту гарадзенскім "Азотам" у гэтым сэнсе карысна літоўцам.

Цікава: А.Шляжавічус ахвяраваў А.Алексу зубра ці не дзеля таго, каб польскі прэм'ер не пусьціў цыстэрны з прадукцыяй гарадзенскага "Азоту" у Гданьскі порт? Такое пытаньне небесьпадстаўнае. Порты ў Гдыні і Гданьску маюць сваю перавагу – яны глыбейшыя за клайпэдзкі. Да таго ж, на польскае ўзбярэжжа Балтыкі з Горадні ходзяць прамыя цягнікі.

**Алесь НАРБУТ**

## Магілёву пагражаюць эпідэміі

**У Магілёве сёньня ёсьць адзінае месца захоўваньня сьмецьця і адходаў – палігон каля калгасу "Расея", дзе знаходзіцца перапрацоўчы завод.**

Два гады таму завод спыніўся з прычыны састарэласьці абсталяваньня. Рэканструяваць яго грошай няма. На палігон, пры запланаванай магутнасьці 190 тыс. тон, завезена у два разы больш сьмецьця. Калі санслужба прыпыніла дзейнасьць палігону на месяц, то сьмецьце вывозілі проста за горад і скідвалі. Як лічаць санэпідэмстанцыя, Магілёў і навакольле стаяць перад пагрозай масавых эпідэміяў, калі сітуацыя ня зьменіцца.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Справа Кебіча: гарантыі былі ліпавыя

Павел ЖУК

*Гвалт вакол вэксаляў, падпісаных сп.Кебічам, вымушае нас вярнуцца да гэтай праблемы, пра якую СВАБОДА ўпершыню напісала амаль год таму*



Падчас замежнай камандзіроўкі ўвосень 1994 г. мне давялося пазнаёміцца з дзейнасьцю банкаўскіх структураў Нямеччыны і Швайцарыі. Вось там і "ўсплылі" гэтыя славутыя вэксалі. Мне паказалі ня толькі беларускія, але і грузінскія, і малдаўскія, а таксама вэксалі азіяцкіх і афрыканскіх краінаў. Паперы былі падпісаныя і прэм'ерамі, і міністрамі фінансаў, і старшынямі нацыянальных банкаў. Рэкардсмэнам сярод краінаў СНД была Грузія, якая выдала вэксаляў на 7 млрд. даляраў. (Ёсьць вэрсія, што менавіта гэта і стала прычынаю самагубства іхнага шэфа Нацбанку.) А першынство ў абсалютным заліку – ў Нігерыі: вэксаляў ажно на 22 млрд. даляраў. З пераліку краінаў відаць, што ўсе яны ня могуць пахваліцца сваімі дасягненьнямі ў эканоміцы.

## Дык што ж гэта за паперы?

Вядома, што ўраду любой краіны патрэбныя грошы. Іх можна пазычыць у банках, але тыя патрабуюць гарантыяў, што грошы будуць вернутыя. І калі прадпрыемства, напрыклад, можа закласьці банку сваю маёмасьць, то ўрад закладае рэсурсы дзяржавы. Калі вы недзе прачытаеце, што дзяржаўная пазыка ЗША складае столькі і столькі, то можаце быць упэўненыя, што недзе ў банках на гэтую суму ляжаць гарантыі (вэксалі) ад ураду Клінтана. А грашыма карыстаецца амэрыканскі ўрад.

Здаецца, чаму і нашым урадоўцам такім жа чынам не заткнуць дзірку ў бюджэце. Але, што дазволена Юпітару – не дазволена быку. Ня стаў бы наш "бацька" разам з урадам кідацца "ва ўсе цяжкія", каб атрымаць крэдыты праз Міжнародны валютны фонд, а падмахнуў бы гарантыйную паперку і, калі ласка, лічыце даляры. Але тут паўстае праблема: разьвітым краінам пад урадавыя гарантыі грошы даюць, а для постсацыялістычных краінаў і дзяржаваў "трэцяга сьвету" створаныя розныя фінансавыя арганізацыі, тыпу Эўрапейскага банку рэканструкцыі і разьвіцьця, Сусьветнага банку, МВФ. Яны выдаюць і спаганяюць крэдыты на падставе аналізу пасьпяховасьці рынкавых рэформаў, якія праводзіць тая ці іншая краіна.

Але рынак – гэта прафэсіяналізм, адказнасьць і ўрад ня кожнае краіны да гэтага здатны. А грошы патрэбныя ўсім... Дзе ўзяць? Ёсьць патрэба – знаходзяцца і прапановы. Яны зьяўляюцца да прэм'ера ў выгдядзе жончынай сяброўкі, былога калегі па "Аграпрамбанку" ці памочніка прэзідэнта па асаблівых даручэньнях. Зьяўляюцца і кажуць: падпішы паперку – будуць табе грошы. Вось у такой сітуацыі і спакусіўся Кебіч.

Сутнасьць такой "апэрацыі" заключаецца ў наступным: тэарытычна існуе магчымасьць закласьці такую "каштоўную" паперу ў буйным замежным банку на дэпазіт, атрымаць ад гэтага банку азначаную ў паперы суму і запусьціць гэты вэксаль у абарот.

## Сутнасьць махінацыі

Калі банк прымае на дэпазіт "каштоўную" паперу на акрэсьлены тэрмін, то на суму, названую ў паперы, набягаюць працэнты – а гэта ўжо грошы.

Другая крыніца магчымай нажывы – гэта вэксаль, які дае банк наўзамен дзяржаўнай гарантыі. Яго потым можна прадаць пад працэнты другому банку і атрымаць другі вэксаль, каторы ў сваю чаргу прадаць трэцяму і г.д. Атрымліваецца наступная схема: маем гарантыю на суму 100 млн. даляраў.

1 заклад: атрымалі вэксаль на 100 млн. і працэнты з гарантыі (няхай 6%) – маем 6 млн. даляраў.

2 заклад: прадалі вэксаль на 100 млн. другому банку (няхай за тры працэнты гадавых) і атрымалі другі такі самы на 100 млн іг.д.

Пры спрактыкаванасьці і сувязях у банкаўскім сьвеце з гэтага можна атрымаць да 200% гадавых. Лічба ўражвае. А выглядае проста: падпісаў паперу і ўсё.

Але на самай справе ўсё значна складаней. Існуюць пэўныя правілы падрыхтоўкі вэксаляў. Па-першае, наяўнасьць заканадаўча зацьверджанай працэдуры выпуску такіх папераў. Па-другое, акрэсьленае кола асобаў, якія маюць права іх падпісваць. Па-трэцяе, велічыня заклада, які можа давацца за грошы (а то атрымаецца, як у нашым выпадку: папераў падпісалі на мільярды, а ўсёй маёмасьці – на "Запарожац" ня хопіць). Падпісаць падобную гарантыю можа і прэм'ер, але прымуць яе да разгляду толькі тады, калі побач будуць подпісы старшыні Нацыянальнага банку і міністра фінансаў. Але сама папера яшчэ нічога ня вартая, пакуль ня будзе падпісаны яшчэ цэлы стос пагадненьняў, вызначаны рахункі банкаў, давераных асобаў, межы кампэтэнцыі і г.д. Усе гэтыя акалічнасьці надта ўважліва правяраюцца экспэртамі.

І самае галоўнае – патрэбны чалавек, які мае прамы доступ да кіраўніцтва хаця б аднаго з 50-ці найбольш стабільных і магутных банкаў сьвету. Толькі іхныя вэксалі прымаюцца да аплаты любымі банкамі і фінансавымі ўстановамі. І толькі калі гэтыя ўсе ўмовы выкананыя, можна спрабаваць "прыстроіць" дзяржаўныя гарантыі. У выпадку з Кебічам ніводная ўмова ня выканана. Экспэрты, да якіх я зьвяртаўся, рыхтуючы гэты матар'ял, сьцьвярджаюць, што ніякай працэдуры, якая б дазваляла прэм'еру падпісваць падобныя паперы на той час не было. Дакумант, які рэгламэнтуе такія дзеяньні, быў прыняты ў лістападзе 1994 года, але і ён не дае права подпісу прэм'ер-міністру.

На прэс-канфэрэнцыі В.Кебіч заявіў, што цяперашняе кіраўніцтва таксама раздае такія гарантыі. І гэта сапраўды так. Напрыклад, 31 кастрычніка 1994 г. прэм'ер-міністар М.Чыгір падпісаў пастанову №156 аб выдачы фірме "Беллітінвест" дзяржаўнай гарантыі на 50 млн. даляраў. Фірма, дарэчы, літоўская.

Усе нашыя кіраўнікі (як былыя і цяперашнія), ня могуць уцяміць, што маральныя страты ад такіх "апэрацыяў" ставяць нашу краіну ў вачох усяго сьвету на ўзровень племені Мумбу-юмбу. Адсюль і адпаведныя адносіны. А гэта ўжо матар'яльная катэгорыя.

Некампэтэнтнасьць, няздольнасьць арыентавацца ў сёньняшняй сітуацыі, прымушае спадзявацца на цуды, каб яшчэ крышку пратрымацца каля ўлады. У гэтым нашыя кіраўнікі – што паляўнічыя, што пчаляры, што тэнісісты – падобныя. Такая вось пераемнасьць уладаў.



*– Вячаслаў Францавіч! Гэта праўда, што вы заклалі Беларусь на адзін мільярд даляраў?*
*– Ну што вы, Аляксандар Рыгоравіч...*

---

# Сьціплае абаяньне чынавенства

*Як у Беларусі ажыцьцяўляецца канстытуцыйнае «права на атрыманьне інфармацыі»*

**Колькі ў Менску пабудавана дзяржаўных кватэраў у бягучым годзе? Безумоўна, чытачам гэта было б цікава, таму наш карэспандэнт вырашыў напісаць артыкул на тэму жыльлёвага будаўніцтва. Здавалася б, няма нічога больш простага – набяры тэлефон чыноўніка, і вам ветліва скажуць патрэбныя лічбы. Але так адбываецца ў нармальнай краіне з нармальнымі людзьмі. А як ў Беларусі ажыцьцяўляецца «права на атрыманьне інфармацыі», мы вас зараз пазнаёмім.**

У прыемнай старшыні Менскага гарвыканкаму нашаму карэспандэнту далі тэлефон начальніка Ўправы камунальнага будаўніцтва (УКБ) Івана Турава. Івана Канстанцінавіча на месцы не аказалася – што ж, бывае, ўсе мы людзі занятыя. Сакратарка дала іншы тэлефон – намесьніка начальніка УКБ Мікалая Драмука. Але Мікалай Міхайлавіч ня ведаў такой карыснай інфармацыі. Зрэшты, нічога страшнага – ён кіраўнік, усё ведаць яму неабавязкова, для гэтага ёсьць падначаленыя. Таму Мікалай Міхайлавіч параіў зьвярнуцца ў вытворчы аддзел гарвыканкаму, дзе напэўна ўсё ведаюць пра жыльлёвае будаўніцтва.

"Ведаюць" – яшчэ ня значыць "скажуць". Загадчыца вытворчага аддзелу Алена Паўлючэнка "сакрэтную лічбу" відавочна ведала, таму, напэўна, і не захацела так проста яе выдаць. "Давайце пісьмовы запыт, я яго зарэгіструю, і вы праз пэўны час атрымаеце адказ," – Алена Аляксееўна дэманстравала цуды бюракратычнай вынаходлівасьці.

Аднак наш карэспандэнт чалавек вытрыманы, загартаваны нялёгкай журналісцкай працай; ён гаворыць "дзякуй" і ідзе далей "па этапу". Наступны прыпынак – гарвыканкамаўскі камітэт па эканоміцы. Але хто вам сказаў, што камітэт па эканоміцы павінен ведаць дадзеныя па будаўніцтву? Ва ўсякім разе, Галіна Кірылава з гэтага камітэту так ня думае. Таму яна адправіла нашага карэспандэнта туды, адкуль ён і пачынаў. Не, не падумайце што благое – я маю на ўвазе ўсяго толькі УКБ.

Тут у журналіста пасьля гэткіх "блуканьняў па пакутах" адключыліся некаторыя прафэсійныя якасьці, і ён ужо ня памятае пасады наступных двух чыноўнікаў – Леаніда Іванавіча і Яўгена Уладзімеравіча. Яны, як і ўсе астатнія героі гэтай трагікамэдыі, "стойка трымаліся, тоячы словы і думкі свае". Адзінае, што яны пасьля доўгіх ваганьняў "выдавалі" – гэта тэлефон іншага чыноўніка. Нарэшце, калі галоўны інжэнер УКБ Анатоль Іваноў запрасіў: "што ж, прыяжджайце, паглядзім, можа знойдзем гэтую лічбу", карэспандэнт канчаткова страціў прытомнасьць і працаздольнасьць, самлеўшы акурат перад кабінэтам галоўнага рэдактара. Наш рэдактар, вымушаны быў выкарыстаць усе свае законныя паўнамоцтвы, каб газэта ўсё ж атрымала неабходную чытачам інфармацыю. Пад напорам галоўнага рэдактара Анатоль Дзьмітрыевіч "раскалоўся" і "ўсяго" праз некалькі гадзінаў назваў злашчасную лічбу.

Уся гэтая сумная гісторыя чарговы раз пацьвярджае факт глыбокай прафэсійнай дэградацыі нашага чынавенства. Пад уплывам агульнай атмасфэры падазронасьці, дзяржаўныя служачыя ўспрымаюць званок журналіста як стыхійнае бедства, думаючы толькі аб тым, як бы хутчэй адвязацца. Эпізоды, падобныя вышэйапісанаму, можа прывесьці ці ня кожны супрацоўнік сродкаў масавай інфармацыі, хаця мэтады ўтойваньня інфармацыі бываюць рознымі.

Часам табе ўжо паабяцаюць нейкія дадзеныя, ты едзеш праз увесь горад ў гэтую ўстанову, але там высьвятляецца, што няма "самага апошняга" дазволу вышэйшага начальства. А калі табе праз некалькі дзён выдадуць гэтую звычайную і зусім не сакрэтную інфармацыю, аказваецца, што там зусім ня тое, на што разьлічваў журналіст. Моцны штуршок самадурству чыноўнікаў даў адзін з указаў Лукашэнкі, у якім загадвалася міністэрствам і ведамствам даваць інфармацыю толькі праз дзяржаўнае агенцтва "БелТА". Што з гэтага можа атрымацца, прадэманстравала прэс-канфэрэнцыя аднага з віцэ-прэм'ераў, дзе на пытаньне журналіста ён адказаў: "Даведаецеся з прэсы".

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі, мілейшы Аляксандр Абрамовіч зараз наракае на прэсу за слабое асьвятленьне перадвыбарчай кампаніі. Але сьпісы кандыдатаў у дэпутаты СВАБОДЗЕ не дае – маўляў, яны і так надрукаваныя ў мясцовых дзяржаўных газэтах. Спачатку ў Цэнтрвыбаркаме мне адказвалі, што сьпіс занадта доўгі – амаль на 50 старонак – таму на ўсіх жадаючых паперы не хопіць. Мы ў рэдакцыі праніkліся праблемамі захаваньня ляснога багацьця, і прапанавалі "скінуць" сьпіс з кампутара на нашу дыскету. На гэты раз Абрамовіч адмовіў без усялякіх тлумачэньняў.

У справе нармальных дачыненьняў з "чацьвёртай уладай" вельмі важная асоба кіраўніка таго ці іншага ведамства. Напрыклад, заўсёды можна нармальна папрацаваць з міністэрствамі працы, зьнешнеэканамічных зносінаў, з рознымі службамі Вярхоўнага Савету. Кіраўнікі і шэраговыя супрацоўнікі гэтых установаў фактычна ніколі не адмаўляюцца ад кантактаў з прэсай, выклікаючы сярод журналістаў заслужаную павагу. Але падобныя нармальныя паводзіны становяцца ўжо рэдкасьцю – суцэльна перамагае стаўленьне да журналіста як да патэнцыйнага ворага.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

СВАБОДА
24 лістапада 1995 г., №53

# ВАРШАВА – МЕНСК – ВІЛЬНЯ

*Падарожныя занатоўкі*

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

## Вяртаньне

Бываюць часы, калі больш вяртаешся, чым жывеш наперад. Недарма спадар Ніцшэ казаў пра вечнае вяртаньне. Я ўжо ня еду, а толькі вяртаюся – то ў Менск, то ў Вільню, то ў Варшаву. А Беларусь пэрманэнтна вяртаецца ў савецкія часы – да тых парадкаў, аднасінаў, сьцягоў...

Кожнае вяртаньне дадому для мяне – як вяртаньне ў нешта былое, што ўжо мінула. Пераехаў мяжу – і ты ў сваім савецкім дзяцінстве, дзе мала што зьмянілася і паветра насычана тымі самымі пахамі. Неяк, праходзячы ў цэнтры Менску каля сваёй былой школы, я нават падкурчыў ногі, каб вярнуць колішні пункт гледжаньня, бо сёньня ўсё навокал – дамы, двары, дрэвы – выглядае паменшаным. Але я зрабіў гэта толькі на імгненьне, каб не бянтэжыць людзей.

Такое вяртаньне – вельмі спакуслівае, нібы магчымасьць адначасова пражываць некалькі жыцьцяў, бо ўсё, што зроблена і пераж ыта нашымі суседзямі за апошнія дзесяць гадоў, у нас яшчэ толькі пачынаецца. У Варшаве мы гаворым пра хібы і няўдачы гэтых дзесяці гадоў. Пасьля я прыяжджаю ў Менск і тут як бы дадзена паўтарыць, але ўжо бяз хібаў і, можа быць, зусім паіншаму, па-новаму, па-свойму.

Там рэпэтыцыя, тут прэм'ера...

Беларусь ходзіць на падкурчаных нагах. Яна ўсё яшчэ ў палоне свайго адкрыцьця – ілюзіі спыненага часу. І каб зразумець, што тут адбываецца, трэба ехаць у іншы край...

## Парасткі камунізму

У Асячаны пад Кракавам на нараду рэдактараў "тоўстых часопісаў" Беларусі, Украіны і Польшчы нас разам з калегамі запрасіў польскі Фонд Сораса. Праз тыдзень пасьля сустрэчы я меўся ў Варшаве атрымаць прэмію фонда POLCUL і ў чаканьні гэтай урачыстасьці жыў у свайго варшаўскага калегі Паўла Казанэцкага, супрацоўніка фонду IDEE. Нарэшце, паехаў я з Польшчы, маючы ў руках запрашэньне на новы візіт – ад Фонду Польска-Чэха-Славацкай Салідарнасьці...

Фонды – зусім новая для постсавецкага чалавека зьява. Павал Казанэцкі тлумачыць мне, што гэта – зародак іншага парадку размеркаваньня сродкаў, калі грошы ідуць не праз дзяржаўныя ўстановы, а праз грамадзкія арганізацыі. Гэта, – кажа ён, – вельмі жывая і чуйная да зьменаў сістэма. Бо грамадзкія арганізацыі ня будуць разбазарваць сродкі – трымаць вялікія штаты або фінансаваць п'яніцу, якога дзяржаўная ўстанова мусіць утрымліваць на акладзе. Фонды адшукваюць ініцыятыўных людзей і дапамагаюць іхнаму патэнцыялу раскрыцца. Яны ўвесь час выбіраюць – каму даць грант. Гэты пастаянны выбар робіць іхную працу творчай...

Я слухаю і чамусьці ўзгадваю колішнія савецкія мары пра камунізм, пра справядлівае жыцьцё на зямлі... Але чаму тады беларускі прэзідэнт Аляксандар Лукашэнка – верны прыхільнік "рынкавага сацыялізму" – так ня любіць Джорджа Сораса? Прэзыдэнт Літвы ўручыў Сорасу ордэн "Вітаўта Вялікага" – за ўклад у нацыянальную культуру. А нашыя ўлады гэты фонд інакш як "сумнавядомым" не называюць. Па тэлевізіі паказваюць сьпіс незалежных газэт, якія атрымалі гранты ад Сораса – дакладна гэтак, як у 37-м паказвалі пальцам на "ворагаў народа". Агенты імпэрыялізму!.. Што ж атрымліваецца? Камуністычная тэорыя пайшла вайной на камуністычную практыку?..

Мусіць, да камунізму ў абодвух выпадках яшчэ (альбо ўжо) вельмі далёка. Проста А.Лукашэнка змагаецца з замахам на цэнтралізаваную сістэму размеркаваньня – аснову асноваў савецкага сацыялізму.

## Беларуская мова

Цягнік Варшава–Вільня двойчы перасякае беларускую мяжу. За ноч нас акуратна падымаюць 8 (восем) разоў. Мытнікі і памежнікі. Польскія, двойчы беларускія і літоўскія... Ноч ператвараецца ў нешта неверагоднае: сон паперамена з гімнастыкай. Але найбольш дзіўнае тое, што ўсе, хто ў гэтым удзельнічае, нібы перакананыя, што робяць штосьці нармальнае і нават патрэбнае. Яшчэ ўчора ты ўсьведамляў сябе чалавекам вольнага сьвету і вось – ты зноў "савок".

Ну няхай я – я адтуль прыехаў. Але ў купэ са мною – славак, здараненны дзядзюк з дзіцячым выразам твару. І ён робіць "гімнастыку" з такой самай казарменнай пакорай, што і я...

На апошняй мяжы ўжо сьветла. Мы стаім у густым засьнежаным лесе. Літоўскі памежнік разглядае пашпарт майго суседа. "Словенско". – Ёнай, – крычыць ён праз расчыненае вакно на пэрон, – славенцу віза патрэбна? – Напэўна, – адказвае з пэрону Ёнас, – у іх жа там вайна... Бедны сусед разумее толькі тое, што нешта ня так. Мне даводзіцца тлумачыць, што ён не славенец, а славак. – Черт вас разберет, – кажа літовец па-расейску і аддае пашпарт.

З гэтым славакам я адразу загаварыў па-польску. Не разумее. Па-расейску таксама. Тады мне і прыгадаліся словы Адама Міцкевіча, сказаныя ім у пачатку 1840-х гадоў у лекцыі ў Калеж дэ Франс у Парыжы – пра беларускую мову, "самую гарманічную і з усіх славянскіх моў найменш зьмененую". Далей з славакам я гаварыў толькі па-беларуску. "Акурат заспало" – вінавата казаў ён пасьля чарговай пабудкі на мяжы...

Так за адну ноч значэньне Міцкевічавых словаў з патэтычнага ператварылася для мяне ў практычнае. Напэўна і сапраўды, беларуская мова – агульная аснова, якая ў палякаў і расейцаў як бы абрастае сваім інтанацыйным ды фанэтычным "дэкорам" – і праз гэта для іншых славянаў робіцца ўжо незразумелай. Гэта мае даволі грубае, але непрэтэнцыёзнае меркаваньне. Галоўнае тое, што славак мяне разумеў лепей, чым я яго.

## Злом

Гадоў 10 назад мне давялося цэлую ноч ехаць у цягніку з чэскімі журналістамі. Яны расказвалі дзіўныя рэчы пра тое, які псіхалагічны злом перажываюць людзі ў іхным посткамуністычным грамадзтве. Чалавек, які раней быў непадзельнай уласнасьцю дзяржавы, цяпер адчувае сябе свабодным, але пакінутым, нікому не патрэбным, ён мусіць уладкоўваць сваё жыцьцё сам. І гэта выклікае драматычныя страты – кагосьці забілі, сябра інтэрнавы, сваякі падаліся ў далёкую эміграцыю, нехта застаўся без кватэры, сям'я распалася... Пра тое самае распавядалі тады і польскія калегі. Злом. Прычым ня ў нейкай частцы грамадзтва, а ў душы кожнага божага чалавечка.

Штосьці падобнае я адчуў у 90-м, калі прыехаў у Вільню. Але, у адрозьненьне ад чэхаў і палякаў, перад вачыма ў мяне ўвесь час была мая Беларусь, учарашні дзень, куды кожную хвіліну можна было вярнуцца.

Сёньня час злому настаў і для людзей Беларусі.

## Ліфт

У варшаўскім ліфце, выходзячы, усе адзін аднаму чамусьці кажуць "дзякуй". Ні ў Менску, ні ў Вільні такога няма.

Але вось я выходжу з ліфту проста на Маршалкоўскую (*цэнтральная вуліца ў Варшаве* – **Рэд.**) і цэлую гадзіну шукаю тэлефон. Марная справа.

І такога таксама ні ў Менску, ні ў Вільні няма...

## Інтэрвію

Спрабую растлумачыць нашу сітуацыю журналісту польскага радыё. Кажу пра злом і пра тое, што ў такія часы людзям найбольш патрэбнае суцяшэньне. У гэтым сэнсе беларусам цяжэй за суседзяў, бо яны не рэлігійны народ. Іх няблага супакойвала савецкая ідэалогія, пакуль не развалілася яе прапагандысцкая машына. Хто і чым можа супакоіць людзей сёньня? Вось тут і зьяўляецца невядома адкуль ці то поп, ці то камісар, ці то Тымінскі, ці то Кашпіроўскі, а хутчэй – усе яны ў адной асобе, і пачынае казаць, што ніякага злому ня будзе, што ўсё будзе па-ранейшаму. Тым часам злом адбываецца сам па сабе, і ТОЙ проста расьцягвае яго ў часе. Гэта як ампутацыю праводзіць не за хвіліны, а за дні, месяцы – патроху... Развалілі СССР, разьвялі камэрцыю, пусьцілі ў краіну ўсялякіх Сорасаў. Трэба вярнуць старыя парадкі!.. Так выглядае адказ на пытаньне пра фэномэн беларускага прэзідэнта.

Гэты поп-камісар (ягонае прызнаньне – "я праваслаўны атэіст") сьпявае так, як акын. Тэксты ягоных выступаў цалкам не друкуюць – задоўгія і абсурдныя. Яго трэба слухаць! Бо галоўнае там ня словы, а інтанацыя. І людзі слухаюць. Ягоная інтанацыя дае ім сілы, і яны ўжо не задумваюцца, што гэтыя сілы – толькі гіпнатычны эфэкт...

## Гімлер

У варшаўскім часопісе bruLion упершыню чытаю прамовы Гімлера і думаю пра тое, што ўлады звычайна забараняюць такія тэксты зусім не таму, што баяцца іх прапагандысцкага эфэкту, а толькі таму, каб схаваць падабенства да іх уласных прамоваў, тэзісаў, ідэалогіі. Сёньняшняя афіцыйная менская кнігарня прапануе цэлы букет літаратуры па тэрарызму ды іншай антыграмадзкай дзейнасьці. Гэтага не забараняюць. Улады баяцца менавіта прапаганды – тупой або наіўнай – якая нічым не адрозьніваецца ў іх і ў нацыстаў. Мэтодыка "абалваньваньня" масаў заўсёды адна.

## 10%

Праблема ў тым, што ў Беларусі не праводзяцца рэформы. Усё, што робіцца зьверху, робіцца або каб дагадзіць Маскве, або каб вярнуць атрыбутыку савецкіх часоў. Усе заклікі папулісцкай улады зводзяцца да двух пастулатаў: захаваць, як было, і чакаць. "Галоўнае – нам удалося захаваць адзіны народнагаспадарчы комплекс", – кажа прэзідэнт. Мучэньне хвороба цела тут выдаецца за дасягненьне.

Але абстрактнае чаканьне ў эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сфэры азначае толькі адно – пакласьціся на волю адсталасьці. І адсталасьць бярэ сваё. Ужо нідзе ў нашых суседзяў (акрамя, можа быць, Расеі, але гэта несувымернае параўнаньне) няма такога кантраснага, абразьлівага падзелу на кучку багатых і масу бедных, як у нас. Нідзе няма такога кантрасту крамаў і асартымэнту тавараў у іх, сярэдняга заробку і коштаў нерухомасьці (заробкі "свае", а кошты нерухомасьці – маскоўскія), паліклінікаў, сфэры паслуг...

Дзяржава, якая жадае дабра свайму народу, павінна кожнаму грамадзяніну аддаць частку сваёй маёмасьці. І калі ў Польшчы прыватызавана каля 70% дзяржаўнай уласнасьці, у Літве – каля 80%, дык у Беларусі – усяго каля 10%. Гэта значыць, што ў людзей нічога няма. Нічога свайго, законнага, што можна было б прымножыць, атрымаць або перадаць у спадчыну. Адсюль так слаба разьвітае ў нас разуменьне любых пазачасавых каштоўнасьцяў. Калі жывеш толькі сёньняшнім днём, у незалежнасьць, родную мову і гісторыю можна хіба што сьлепа верыць. Гэта па-першае.

Па-другое, у краіне не існуе гарантый для прыватнае ўласнасьці, і ўвесь грамадзкі клімат працуе супраць такіх гарантый. Буйнейшы камэрцыйны банк указам прэзыдэнта далучаюць да дзяржаўнага банку; прэзыдэнцкі "завхоз" Іван Ціцянкоў аглядае офісы фірмаў у цэнтры Менску і прыгаворвае: гэта нам (адміністрацыі прэзыдэнта) падыходзіць; правы ўласнасьці зьвязваецца не з уласьнікам, а з тым, хто тую ўласнасьць даў, і пры кожнай замене начальніка можна чакаць перадзелу.

Па-трэцяе, ня маючы ніякай уласнасьці, людзі праз сістэму падаткаў ніяк адчувальна не зьвязаныя з дзяржавай, з бюджэтам, які для іх застаецца такой самай абстракцыяй, як і сама дзяржава. Калі ж я – гаспадар, то багацьце краіны напрасткі адбіваецца на мне, як падаткаплацельшчыку. Я аддаю перавагу беларускім таварам (першасны, так бы мовіць, патрыятызм), я думаю пра тое, як рэалізаваць свае сродкі так, каб грошы засталіся ў Беларусі, і дынаміка дзяржбюджэту для мяне ня менш цікавая, чым зьмены на маім уласным рахунку. Так нараджаецца дзейсная нацыянальная сьвядомасьць у маштабах усяго народу. Для гэтага народ ня трэба ламаць. За гэта ня трэба агітаваць. Толькі народ як супольнасьць падаткаплацельшчыкаў можа атаясаміць свой лёс з лёсам краіны, аддаць дзяцей у беларускія школы, прычым усьвядомлена і з задавальненьнем.

Калі б ня сёньняшні адкат у былое, які ў той ці іншай ступені адбыўся ва ўсіх постсавецкіх краінах, а ў Беларусі стаў проста фатальным, так бы яно і было. Журналіст польскага радыё падказаў мне вельмі трапнае азначэньне для нашага сёньняшняга рэжыму – канвульсія...

## Паланізацыя і русіфікацыя

– Што вы думаеце пра высылку з Беларусі польскіх ксяндзоў-місіянэраў?

Гэта складанае пытаньне. Ксяндзоў высылалі за адкрытую паланізатарскую дзейнасьць. Але пры гэтым ніхто і не падумае высылаць расейскіх папоў. Наадварот, А.Лукашэнка паўтарае, што дзяржава будзе падтрымліваць толькі праваслаўе. Але ж у Беларусі рэальных вернікаў-каталікоў ніяк ня менш за такіх самых праваслаўных.

Вось вузел праблем. Некалі ў XIX ст. самая беларуская ідэя выйшла з польска-каталіцкага асяродзьдзя. Гэта засьведчыла блізкасьць дзьвюх ідэй, іх узаемапранікальнасьць, і стала пасьля прычынай рэальнага плёну паланізацыі ў Беларусі. Яшчэ й сёньня многія нашы пашпартныя палякі памятаюць, калі іх запісалі палякамі. А я памятаю, як яшчэ ў часы студэнцтва аднаго майго калегу з Навагрудчыны бацька выгнаў з дому за "беларускія настрої". Уся сям'я там гаварыла толькі па-беларуску, але лічылі сябе палякамі.

Нічога такога не было з "усходняга" боку. Я ня ведаю расейцаў – былых беларусаў. І колькі ні шукаў рэальнага пераходу з беларускага ўсьведамленьня ў расейскае – так і не знайшоў. У гэтым сэнсе ў Беларусі ніколі не было русіфікацыі. Была царская, а пасьля савецкая бюракратызацыя. І гэтыя працэсы ішлі не ў прамым узаемапраніканьні народаў, а праз начальства, школу і тэлевізар.

З пальшчызнай усё амаль наадварот – усё вельмі блізка, усё "зьнізу". Тут беларускі чалавек сапраўды мог усьвядоміць сябе палякам. Быць расейцам – зусім ня больш прэстыжна, чым беларусам. Быць палякам – значыць, ня быць ні расейцам, ні беларусам, а быць іншым, не савецкім. Быць палякам – як нейкі пралаз для асабістай свабоды чалавека ў таталітарным грамадзтве.

Сутнасьць праблемы – у недаафармленасьці самой Беларусі – нацыі і дзяржавы. Калі ў нас будзе панаваць нармальная дзяржаўная і нацыянальная сьвядомасьць і ня будзе такой глухой мяжы з Польшчай – ня будзе і праблем з ксяндзамі. Трэба лiквідаваць не паланізацыю, а яе падставы, не забіраючы пры гэтым у людзей права выбару. Але пакуль наша дзяржава нічога для гэтага ня робіць, адзінае, што застаецца, – прызнаць слушнасьць высылкі ксяндзоў.

## Сімволіка чыгункі

Колькі аўтараў знаходзілі ўдзячныя сымбалі на чыгунцы! Я еду ў яшчэ савецкім спальным (г.зн. нязручным для спаньня) вагоне, які належыць ужо літоўскай чыгунцы. Вагон паднોўлены, усе надпісы – па-літоўску. Ідучы, як казаў М.С.Гарбачоў, працэсы. Клязэт у вагоне – зусім ужо "эўрапейскі", вада падаецца пэдалькаю на падлозе і г.д.

Апусьціўшы вочы, знаходжу адрас вытворцы клязэту – Быдгашч. Савецкі вагон, літоўскія надпісы, польскі клазэт... Сімволіка часу.

* * *

Я вяртаюся ў сваё савецкае дзяцінства, Беларусь вяртаецца ў свае былыя часы, Ніцшэ кажа пра вечнае вяртаньне... Але нашае вяртаньне – ілюзорнае, як тыя сілы, якія дае прэзыдэнцкі гіпноз. Мы спакушаемся магчымасьцю "падмануць Бога", пажыць яшчэ раз, зрабіць з свайго адзінага жыцьця два. Мы ходзім з падкурчанымі нагамі і не саромеемся людзей, таму што мы так ходзім усе.

# Таможенный союз: мы теряем 2,7 миллиарда долларов

**Станислав ГУСАК, заместитель председателя Партии Белорусского народного Фронта**



Внешний долг России превысил 135 миллиардов долларов. Россия возглавила список должников во всем мире и, по утверждению российских экономистов, к новому 1996 году этот долг приблизится к одной тысяче долларов на каждого (!) российского гражданина.

Беларусь имеет этот показатель в четыре раза ниже, и он составляет около 250 долларов на каждого из нас (включая младенцев). Создание единой экономической, военно-политической или какой-либо зоны (союза) с Россией будет означать для граждан Беларуси увеличение внешнего долга до российского показателя. России это выгодно, лучше, если часть ее долгов и расходов ляжет на плечи Беларуси. Но тогда возникает вопрос: почему граждане нашего государства должны платить за все, что было разворовано, промотано, провоевано в России?

"Прелести" единого таможенного пространства мы уже ощущаем. Если раньше можно было купить подержанную машину западного производства за 1000-1500 долларов, то теперь такая машина стоит 4-5 тысяч долларов. Причина известная – подписав соглашение о единой таможенной зоне, президент и его правительство ввели российские таможенные правила. Машины из Западной Европы стало невыгодным ввозить на внутренний рынок Беларуси. Казна осталась без доходов от пошлины на ввоз, а беларусы – без автомобилей. Если бы Беларусь сохранила собственное таможенное пространство, то через 2-3 года практически каждая семья могла бы иметь автомобиль. Монополизировав белорусский рынок, Россия взвинтила цены на свои автомобили, и теперь нам выбирать не приходится.

Если бы Беларусь сохранила свое таможенное пространство, то за счет взимания пошлин за транзит нефти, газа и других товаров трубопроводами, по железной дороге, автомобильным транспортом, авиацией, а также взимания выплат за расположение российских войск и ядерных ракет на нашей территории, мы смогли бы более чем в два раза увеличить государственный бюджет. Объем этих выплат и пошлин составляет около 2,7 миллиарда долларов. Обещанной президентом экономической компенсации в виде сниженных цен на энергоносители Беларусь не получила и не получит!

За счет взимания пошлин и выплат мы могли бы:

– Дополнительно ежегодно строить 40 000 квартир площадью по 50 кв.м. (это 600 млн. долл.).

– Снизить налоги с производства на 30% и соответсвенно увеличить заработную плату рабочим и служащим (760 млн. долл.).

– Увеличить пенсии пенсионерам на 50% (400 млн. долл.).

– Увеличить заработную плату работникам системы образования и здравоохранения (540 млн. долл.).

– Увеличить стипендию студентам ВУЗов, техникумов и учащимся ПТУ в 3 раза (100 млн. долл.).

– Инвестировать в промышленность и сельское хозяйство на создание новых рабочих мест и внедрение новых технологий (300 млн. долл.).

Итого: 2,7 млрд. долларов США.

Не слишком ли дорого мы платим за "дружбу народов"?

Отдав России все, что можно отдать, Лукашенко занялся поиском "внутреннего" резерва. И опять жертвой стали те же пенсионеры. Наиболее пострадавшей частью населения в результате этих метаморфоз оказались самые активные избиратели первого президента, страстные сторонники единений и защитники установившегося в Беларуси режима. Видно это божья кара за слепоту на выборах.

Кстати, Украина, как известно, отказалась от вступления в какие-либо зоны или союзы на принципах, предложенных Москвой и принятых руководством Беларуси. Президент Украины Кучма заявил, что такое единение не отвечает государственным и экономическим интересам Украины. Экономическое сближение стран СНГ Киев видит через организацию свободной торговли между странами. И это логично.

Лукашенко и его правительство вопреки здравой логике и смыслу принимают решения, несущие Беларуси экономические убытки и подрывающие политический авторитет государства, снижающие жизненный уровень народа. Все поставлено с ног на голову.

СУСЕДЗІ

# Польшча пасьля выбараў прэзідэнта

**21 лістапада А.Лукашэнка ў сваім 3-гадзінным выступе на вэртыкальным "партыйна-гаспадарчым актыве" двойчы згадваў пра Польшчу.**

Па ягоных словах, польскі народ не прымае палітыку рэформаў, і таму да ўлады зноў "прыйшлі камуністы", якіх наша прэса завуалявана называе "левымі сіламі". Лукашэнка падкрэсьліў, што польскі прыклад "пра многае прымушае задумацца".

Вельмі ўражвае, што наш прэзідэнт кепска арыентуецца ў палітычным жыцьці суседняй краіны. У той жа дзень 21 лістапада прэзідэнт Б.Клінтан (пасьля званку ў Гданьск да Л.Валэнсы) 7 хвілінаў размаўляў па тэлефоне з А.Квасьнеўскім. Новы польскі прэзідэнт сказаў Клінтану, што 6 гадоў таму Польшча абрала "добрую дарогу", па якой ён – А.Квасьнеўскі – павядзе яе далей. Польшча будзе надалей умацоўваць дэмакратыю ды вольны рынак і застанецца адкрытай для сьвету. Другая палова тэлефоннай размовы была прысьвечаная адносінам Польшчы з усходнімі суседзямі, галоўным чынам з Расеяй. А.Квасьнеўскі сказаў, што пастараецца пераканаць расейцаў, што пашырэньне NATO на ўсход ня будзе накіравана супраць Расеі.

Так што дарэмна радуецца А.Лукашэнка, што з захаду нас "падапрэ" камуністычная краіна. Ён памыляецца, як памыляліся нашыя камуністы з надзеяй на Бразаўскаса і Кучму. Польскія камуністы ўвогуле ніколі не былі такімі "цьвёрдалобымі" як савецкія. Яны захавалі на вёсцы прыватны сэктар, талерантна ставіліся да касьцёла, а ў 1981 годзе частка з іх гатовая была ўзяць у рукі зброю на выпадак, калі б Брэжнеў паспрабаваў акупаваць Польшчу.

Л.Валэнса вельмі шмат зрабіў для Польшчы, але ён проста надакучыў палякам, як некалі ангельцам надакучыў У.Чэрчыль, хоць ён і выйграў для Англіі вайну з Нямеччынай. Між іншым, "бацька" польскіх рэформаў Л.Бальцаровіч сказаў, што ягоная партыя – Unia Wolnosci – будзе супрацоўнічаць з новымі ўладамі ў двух стратэгічных напрамках – уступленьне Польшчы ў Эўрапейскі Саюз і ў NATO.

І апошняе. 21 лістапада ў Варшаве было заяўлена, што трох новых міністраў – абароны, унутраных і замежных справаў прызначае старшыня ўраду, а ня сам прэзідэнт, які не зьбіраецца балансаваць на мяжы закона. Так што Лукашэнка памыляецца, думаючы, што ў Польшчы таксама можна "разглагольстваваць" пра ўмацаваньне сувэрэнітэту краіны і законнасьці, але рабіць усё наадварот. З палякамі такі "нумар" ня пройдзе, такія палітыкі ня маюць у іх ніякіх шанцаў. І А.Квасьнеўскі гэта разумее.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У ЯКАСЬЦІ ДАВЕДКІ

# Сьпіс тэлефонаў адміністрацыі прэзідэнта

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь **Лукашэнка**
**Аляксандар Рыгоравіч** 22-63-53
Прыёмная 22-39-32

КІРАЎНІЦТВА АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА

Кіраўнік адміністрацыі **Мясьніковіч**
**Міхаіл Уладзімеравіч** 22-60-06
Памочнік **Дзягода**
**Ігар Барысавіч** 22-30-18
Прыёмная 22-60-06
Першы намесьнік кіраўніка адміністрацыі **Сазонаў**
**Міхаіл Юр'евіч** 22-38-50
Прыёмная 22-33-40

САКРАТАРЫЯТ ПРЭЗІДЭНТА

Кіраўнік сакратарыяту – першы памочнік прэзідэнта **Латыпаў**
**Урал Рамдракавіч** 22-33-23
Прыёмная 22-32-84

*Група памочнікаў прэзідэнта*

Памочнікі прэзідэнта:
**Пілюта**
**Ўладзіслаў Сяргеевіч** 22-36-72
Прыёмная 22-35-42
**Посахаў**
**Сяргей Аляксеевіч** 22-33-38
Прыёмная 22-30-73
**Сазонаў**
**Аляксандар Юр'евіч** 22-39-83
Прыёмная 22-37-84
**Слука**
**Алег Георгіевіч** 22-33-57
**Канаплёў**
**Уладзімер Мікалаевіч** 22-62-99
**Кучынскі**
**Віктар Францавіч** 22-34-17
Дарадцы-кансультанты:
**Варанецкі**
**Валерый Іосіфавіч** 22-31-45
**Макараў**
**Сяргей Пятровіч** 22-30-20
Галоўны спэцыяліст
**Чалы**
**Сяргей Вечаслававіч** 22-34-85

ГАЛОЎНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ЎПРАВА

**Капітула**
**Пётар Андрэевіч** 22-36-50
Намесьнік начальніка ўправы
**Дромаў**
**Анатоль Андрэевіч** 22-39-54
Прыёмная 22-31-71
Галоўныя спэцыялісты:
**Голубеў**
**Юрый Андрэевіч** 22-31-10
**Іванцоў**
**Пётар Іванавіч** 22-34-50
**Камкоў**
**Васіль Нікіфаравіч** 22-30-62

ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЙ ІНФАРМАЦЫІ

Намесьнік кіраўніка адміністрацыі – начальнік управы
**Замяталін**
**Уладзімер Пятровіч** 22-30-17
Прыёмная 22-38-15

*Аддзел грамадзка-палітычных і сацыяльных праблемаў*

Намесьнік начальніка ўправы – загадчык аддзелу **Данілаў**
**Аляксандар Мікалаевіч** 22-39-21
Дарадца-кансультант **Вялічка**
**Ўладзімер Паўлавіч** 22-32-46

*Сэктар вывучэньня грамадзкай думкі*

Галоўны спэцыяліст **Трапянок**
**Мікалай Рыгоравіч** 22-39-61

*Сэктар інфармацыйных тэхналогій*

Загадчык сэктару **Сеўрук**
**Уладзімер Мікалаевіч** 22-37-14
*Галоўныя спэцыялісты:*
**Плютаў**
**Вячаслаў Сяргеевіч** 22-39-69
**Крыванос**
**Аляксандар Паўлавіч** 22-32-41
Вядучы спэцыяліст **Зінакова**
**Сьвятлана Віктараўна** 22-36-36

*Аддзел гуманітарных праблемаў і сувязяў з грамадзкімі арганізацыямі*

Намесьнік начальніка ўправы – загадчык аддзелу **Харавец**
**Валерый Маркавіч** 22-35-57
*Дарадцы-кансультанты:*
**Гурко**
**Аляксандар Віктаравіч** 22-37-26
**Вінакурава**
**Сьвятлана Пятроўна** 22-38-23

*Сэктар праблемаў адукацыі і культуры*

Галоўны спэцыяліст **Марчанка**
**Ніна Паўлаўна** 22-32-16

*Сэктар па сувязях з грамадзкімі арганізацыямі*

Загадчык сэктара **Пашкоўскі**
**Георгій Міхайлавіч** 22-35-98
Галоўны спэцыяліст **Няронскі**
**Ўладзімер Уладзімеравіч** 22-30-61

*Аддзел друку, тэлебачаньня і радыё*

Вядучы спэцыяліст **Ярашук**
**Тамара Віктараўна** 22-31-85

УПРАВА КАДРАВАЙ ПАЛІТЫКІ

Начальнік управы **Малумаў**
**Юрый Георгіевіч** 22-33-39
Прыёмная 22-33-39
Намесьнік начальніка ўправы
**Бачыла Аляксандар**
**Аляксандравіч** 22-35-49
Прыёмная 22-38-30
*Галоўныя інспэктары:*
па Берасьцейскай вобл.
**Папека**
**Мікалай Мікалаевіч** 22-35-58
па Віцебскай вобл.
**Буянаў**
**Уладзімер Мікалаевіч** 22-37-52
па Гомельскай вобл.
**Буйневіч**
**Віктар Міхайлавіч** 22-31-53
па Гарадзенскай вобл.
**Бяляеў**
**Аляксандар Міхайлавіч** 22-31-10
па г.Менску
**Яхнавец**
**Ляон Захаравіч** 22-32-95
па Менскай вобл.
**Борыс**
**Фёдар Фёдаравіч** 22-37-56
па Магілёўскай вобл.
**Смыкоўскі**
**Іван Мікалаевіч** 22-36-91

*Камітэт па барацьбе з карупцыяй у ворганах дзяржаўнай улады і кіраваньня*

Намесьнік начальніка ўправы – старшыня камітэту **Карпіевіч**
**Мікалай Фёдаравіч** 22-37-11
Прыёмная 22-38-68

ДЗЯРЖАЎНА-ПРАВАВАЯ ЎПРАВА

Начальнік управы **Марыскін**
**Аляксандар Уладзімеравіч** 22-37-95
Намесьнік начальніка **Лубоўскі**
**Віктар Яўгенавіч** 22-34-48
Прыёмная 22-37-12

*Аддзел дзяржаўнага і міжнароднага права*

Загадчык аддзелу **Ізотка**
**Ўладзімер Пятровіч** 22-34-81
*Галоўныя спэцыялісты:*
**Васілевіч Ніна Іванаўна** 22-30-34
**Пяткевіч Натальля**
**Ўладзімераўна** 22-37-49

*Аддзел грамадзянскага і гаспадарчага права*

Загадчык аддзелу **Пласкавіцкі**
**Аляксандар Леанідавіч** 22-38-57

*Аддзел па забесьпячэньні дзейнасьці праваахоўных органаў*

*Галоўныя спэцыялісты:*
**Сідарчук**
**Ірына Паўлаўна** 22-35-48
**Юрага Аляксандар**
**Уладзімеравіч** 22-38-11

*Сэктар уліку і сістэматызацыі заканадаўства*

Загадчык сэктару **Шніткова**
**Алена Вітальеўна** 22-36-70
Вядучы спэцыяліст **Генэралава**
**Ірына Эдуардаўна** 22-36-61

УПРАВА ПА ПЫТАНЬНЯХ ГРАМАДЗЯНСТВА, УЗНАГАРОДАЎ І ПАМІЛАВАНЬНЯ

Начальнік управы **Шыпко**
**Аляксандар Яўгенавіч** 22-35-03
Прыёмная 22-30-49

*Аддзел на рабоце са зваротамі грамадзянаў*

Загадчык аддзелу **Бондарава**
**Ганна Фёдараўна** 22-35-37
Намесьнік **Сямілетнікава**
**Яўгенія Вітольдаўна** 22-30-68

*Сэктар лістоў*

Загадчык сэктару **Смалякова**
**Натальля Пятроўна** 22-37-19

*Сэктар арганізацыі прыёму грамадзянаў (вул.Кірава,43)*

Загадчык сэктару **Сідаровіч**
**Сьцяпан Канстанцінавіч** 22-31-64

*Архіў прэзідэнта*

Загадчык сэктарам – архівам прэзідэнта **Белавусава**
**Ірына Іванаўна** 22-38-51

АДДЗЕЛ ПА СУВЯЗЯХ З ВЯРХОЎНЫМ САВЕТАМ

Загадчык аддзелу **Саладоўнікава**
**Валянціна Сьцяпанаўна** 22-39-09

КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*(220016, г.Менск, вул.К.Маркса,38)*

Кіраўнік **Ціцянкоў**
**Іван Іванавіч** 22-60-01
Прыёмная 22-61-54
Памочнік кіраўніка **Віньнікаў**
**Дзьмітрый Захаравіч** 22-35-68
Першы намесьнік кіраўніка
**Харужык**
**Лявонцій Іванавіч** 22-66-07
Прыёмная 22-35-65
Намесьнік кіраўніка **Кашкан**
**Георгій Міхайлавіч** 22-60-22
Прыёмная 22-66-36
Намесьнік кіраўніка **Новак**
**Васіль Аляксандравіч** 22-60-19
Прыёмная 22-38-43
Намесьнік кіраўніка **Лазоўскі**
**Ўладзімер Георгіевіч** 22-37-07
Прыёмная 22-30-55

*Аддзел абслугі дзяржспэцмерапрыемстваў*

Начальнік аддзелу **Дваранiновіч**
**Іосіф Паўлавіч** 22-35-16

*Сэктар па зьнешнеэканамічных сувязях*

Загадчык сэктару **Палятаеў**
**Мікалай Афанасьевіч** 22-37-10

*Управа ахоўваемых тэрыторыяў, лясной і сельскай гаспадаркі*

Начальнік управы **Лучкоў**
**Аляксандар Іванавіч** 22-38-75

*Сэктар сельскай гаспадаркі і перапрацоўкі прадукцыі*

Загадчык сэктару **Папоў**
**Валерый Мікалаевіч** 22-38-09

*Сэктар арганізацыі турызму і паляваньня*

Галоўны спэцыяліст **Сельванюк**
**Аляксей Міхайлавіч** 22-31-25

*Галоўная ўправа адміністрацыйных будынкаў*

Начальнік управы **Данільчанка**
**Ўладзімер Аляксееівч** 22-66-25
Прыёмная 22-33-13

АПАРАТ САВЕТУ БЯСЬПЕКІ

Дзяржаўны сакратар Савету бясьпекі **Шэйман Віктар**
**Уладзімеравіч** 22-64-41
Памочнік Дзяржаўнага сакратара Савету бясьпекі **Міклашэвіч**
**Віктар Якаўлевіч** 22-35-66
Прыёмная 22-61-07

*Аддзел аналітычных дасьледаваньняў і прагназаваньня*

Начальнік аддзелу **Тозік**
**Анатоль Афанасавіч** 22-37-25

*Кантрольна-інспэктарскі аддзел*

Начальнік аддзелу **Канцавенка**
**Сяргей Фёдаравіч** 22-37-43

*Аддзел апэратыўнага рэагаваньня*

Начальнік аддзелу **Сівакоў**
**Юрый Леанідавіч** 22-38-69

*Тэлефонны даведнік друкуецца ў скарочаным варыянце. Калі вам спатрэбяцца нумары тэлефонаў больш дробных чыноўнікаў прэзідэнцкай адміністрацыі – зьвяртайцеся ў ведамства таварыша Замяталіна*

